

Жыве Беларусь!

# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№83(596) 5 мая 1993 г. Серада. | Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. | Тыраж 618816 экз. | Кошт у розніцу — 4 руб.

*Афіцыйна*

## На чарговую сесію будзе прапанавана больш за 90 праектаў

На чарговым пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь пад старшынствам Станіслава Шушкевіча абмеркаваны пытанні чарговай дванаццатай сесіі парламента. Да разгляду дэпутатаў будзе прапанавана больш за 90 праектаў законаў, заканадаўчых актаў і пастаноў як у першым, так і ў другім чытанні. Асноўныя сярод іх: праект Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь; аб імянных прыватызацыйных чэкавых кніжках; аб ахове здароўя; аб унутраным дзяржаўным доўгу; аб узмацненні барацьбы са злачынствамі ў сферы эканомікі і карупцыяй; аб правядзенні абавязковага рэспубліканскага рэферэндуму па важных пытаннях унутрыпалітычнай і знешнепалітычнай дзейнасці рэспублікі.

Разгледжана інфармацыя аб удзеле членаў Прэзідыума ў рабоце сесій мясцовых Саветаў народных дэпутатаў.

Вырашана пры падпісанні Дагавора аб калектыўнай бяспецы зрабіць заяву аб тым, што Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь можа ратыфікаваць гэты дакумент з агаворкамі да яго. Тэкст заявы будзе накіраваны ўсім дзяржавам, якія падпісалі дагавор і якія далучыліся да яго.

Прынята пастанова аб правапераемнасці Рэспублікі Беларусь у адносінах да канвенцыі паміж урадам СССР і ўрадам Італьянскай рэспублікі з мэтай пазбегнуць двайнога падаткаабкладання даходаў.

Для падрыхтоўкі святкавання 50-годдзя вызвалення Беларусі ад фашысцкіх акупантаў створана рэспубліканская камісія на чале з першым намеснікам Старшыні Вярхоўнага Савета Вячаславам Кузняцовым.

Разгледжаны пытанні аб дзяржаўных узнагародах Рэспублікі Беларусь, хадайніцтвы аб памілаванні, кадравыя і іншыя.

**Прэс-служба ВС Рэспублікі Беларусь — Белінфарм.**

## ФАКС

### Вкратце

**Американские войска особого назначения прибыли в Боснию для сбора разведывательной информации и выбора возможных объектов бомбардировки.**

Удары с воздуха, возможно, будут нанесены по позициям сербской артиллерии и линиям снабжения. НАТО также разработало план, по которому намечается направить в Боснию многонациональный контингент сил в составе до 60 тысяч военнослужащих.

❑

**Новый Председатель Верховного Совета Чеченской Республики Юсуп Сасламбеков призвал прекратить митинги в Грозном.**

Об этом он заявил вчера на заседании чеченского парламента, который проходит, несмотря на то, что в апреле Дудаев ввел в республике режим президентского правления и объявил о роспуске Верховного Совета.

❑

**"Группа, устроившая столкновения 1 мая в Москве, должна быть предана суду".**

Об этом заявил вчера министр иностранных дел России Андрей Козырев на встрече с журналистами после переговоров со своим португальским коллегой Жозе Мануэлом Дураном Баррозу.

НАШЕ ДЕЛО-ЛЕВОЕ!
А МНЕ ДО ВАС НИКАКОГО ДЕЛА!!!
НАШЕ ДЕЛО-ПРАВОЕ!

Рисунок Олега ПОПОВА.

### Катали шарики дети... Из ртути

**Необычную игру подыскали себе дети возле одного из общежитий в Минске. Они нашли ртуть, закупоренную в баночку из-под майонеза, и принялись с ней забавляться.**

Как сообщил главврач райСЭС Октябрьского района столицы Юрий Козлов, 11 детей были сразу госпитализированы. После обследования на вчерашний день пять из них выписаны. Врачи не нашли у них отравлений...

Ртуть оказалась на дорожках возле общежития и в самом здании. Проведена дезактивация загрязненной территории. Сегодня утром специальная лаборатория городской СЭС проведет замеры. Если будут обнаружены пары ртути, то жильцов злополучного общежития придется эвакуировать.

**Анатолий ВИКТОРОВ.**

### Прямо по курсу — Бухарест

**6 мая начнется двухдневный официальный визит Председателя Верховного Совета Республики Беларусь Станислава Шушкевича в Румынию.**

Ожидается подписание межгосударственного Договора о дружественных отношениях и сотрудничестве, а также ряда документов о сотрудничестве в конкретных областях.

**Алесь ЛИПАЙ.**

### Ваучер акции не спадар

**Приватизацию в республике следует проводить не путем "ваучеризации" предприятий, а — акционирования.**

Такое решение принято на очередном заседании Президиума Совмина Беларуси, где был утвержден проект государственной программы приватизации. Он будет вынесен на обсуждение очередной сессии парламента.

**Виктор АНАТОЛЬЕВ.**

### Что там пушится на прилавках?

**Вчера в Минске на проспекте Ф.Скорины (магазин "Детская одежда") состоялось открытие первого совместного белорусско-китайского предприятия.**

На открытии присутствовали Председатель Верховного Совета Беларуси Станислав Шушкевич и Чрезвычайный и Полномочный Посол Китая в Республике Беларусь господин Ван Синда.

По словам "первооткрывателей", товары, представленные в магазине, будут отличаться отменным качеством и богатым ассортиментом. Посмотрим?..

**Алесь СИВЫЙ.**

### Для верующих или неверующих?

**Пением молитвы огласился вчера вестибюль Дома правительства.**

Делегация католиков, состоявшая преимущественно из женщин пенсионного возраста, молилась за успех визита к Алексею Жильскому, председателю Совета по делам религий.

Католики просят вернуть Мариинский кафедральный собор, в котором ныне размещается детская спортивная школа профсоюзов. Межведомственная переписка по этому вопросу пока ни к какому результату не привела.

**Игорь ФИЛИПЕНКО.**

**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, БелаПАН и РИД.**

## Ці быць рэферэндуму? А калі быць, то якому?

**Мікалай ГАЛКО**

Першая спроба правесці на Беларусі рэферэндум, як вядома, не мела шчаслівага лёсу. Ідэю аб ім разам з подпісамі соцень тысяч грамадзян пахаваў цяперашні склад Вярхоўнага Савета. У той раз ініцыятарам быў БНФ разам з паплечнікамі.

Цяпер рашучы крок у межах сваіх паўнамоцтваў зрабіў Станіслаў Шушкевіч, асоба якога ніколі не была аб'ектам любові з боку парламенцкай большасці.

Дык які ж лёс чакае прапанову Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь? Прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі шукалі адказ на гэта пытанне падчас прэс-канферэнцыі, якую правялі дэпутаты Дзмітрый Булахаў і Уладзімір Грыбанаў. Яны прадстаўлялі пастаянныя камісіі, што атрымалі даручэнне рыхтаваць пазначанае вышэй пытанне да майскай сесіі. Пакуль цяжка зразумець, што хаваецца за гэтай бюракратычнай фармулёўкай. Калі Станіслаў Шушкевіч, відавочна, хоча шчыра параіцца з суайчыннікамі, варта альбо не прыладжвацца нам да чужой ваеннай моцы і самім ператвараць ладны кавалак масла ў гарматы, то пракамуністычным, праімперскім сілам хутчэй за ўсё даўно ўсё зразумела — ім карціць нядаўняе былое.

Дзмітрый Булахаў у пачатку прэс-канферэнцыі без ценю ўсмешкі сказаў, што гэты дзень, панядзелак, 3 мая, па гараскопу вельмі ўдалы для пачатку важных спраў, таму можна разлічваць на поспех. Асабіста мне здавалася, што справа пачалася, калі першае слова аб рэферэндуме прамовіў Станіслаў Шушкевіч. І варта паваражыць менавіта ў гэтым кантэксце, ці быў той дзень удалым па гараскопу, які імкнуцца намаляваць мясцовыя палітычныя сілы.

Абодва ўдзельнікі прэс-канферэнцыі — і Дзмітрый Булахаў, і Уладзімір Грыбанаў — са знішчальнай крытыкай абрынуліся на Закон аб рэферэндуме. Старшыня Камісіі па заканадаўству нават назваў яго законам хутчэй аб неправядзенні рэферэндуму. Можна доўга іранізаваць: а ці не вы самі, спадары-дэпутаты, благаславілі гэты заканадаўчы акт і каго вы цяпер крытыкуеце за быццам бы дапушчаны брак? Але за аб'ектам іроніі можа хавацца і нешта больш значнае.

Асноўныя папрокі ў адрас закона аб усенародным апытанні можна сфармуляваць так: у ім не рэгламентавана сітуацыя, калі ініцыятарам правядзення рэферэндуму становіцца Старшыня Вярхоўнага Савета; ён забараняе выносіць на суд грамадзян пытанні, што пасягаюць на суверэнітэт (а Дагавор аб калектыўнай бяспецы, на думку многіх, — з гэтага шэрага); невядома, каму вызначаць характар рэферэндуму — абавязковы ці кансультатыўны; патрабуецца ўдакладненне, ці могуць ваенныя ўдзельнічаць у палітычнай акцыі.

Утапіць можна і таго, хто ўмее добра плаваць, а таго, хто толькі пачаў вучыцца, — тым больш. Наша дзяржава не мае ніякага вопыту ў масавым вывучэнні грамадзянскай думкі, таму і ўзнікаюць самыя розныя перашкоды. Першая — неабходнасць перапрацоўкі дзеючага Закона аб рэферэндуме. Для гэтага патрэбен час, а да адкрыцця майскай сесіі засталося каля двух тыдняў. Другая — імкненне прыладзіць у кампанію да пытання, сфармуляванага Станіславам Шушкевічам, шмат іншых. Тут палітычнай фантазіі ёсць дзе развярнуцца: ці патрэбен Беларусі прэзідэнт, ці варта рабіць зямлю прыватнай уласнасцю, пакідаць мясцовыя Саветы альбо пераўтварыць іх у муніцыпалітэты, што рабіць з парламентам — пакінуць яго ў такім стане альбо рэфармаваць у прафесійны. За гэтым няпоўным пералікам хаваецца парадокс: новыя пытанні могуць выцiснуць з кампаніі першае, тое, што прапанаваў ініцыятар рэферэндуму, і тады мы станем сведкамі, як нараджаецца дзіця ад другога бацькі. Ці не смешна?

Канешне, гэта толькі асабісты прагноз.

Увогуле ж Дзмітрый Булахаў гаварыў пра тое, што ўсе партыі будуць прыцягнуты да актыўнага ўдзелу ў падрыхтоўцы рэферэндуму, што будуць праведзены "круглыя сталы", што група спецыялістаў, незалежна ад дэпутацкіх камісій, выкажа сваё меркаванне да фармулёвак пытання.

Перад намі расійскі вопыт: тыя, каму не спадабаліся вынікі рэферэндуму, не чырванеючы ад сораму, крычаць, што ім на тыя вынікі начхаць. Дыягназ ставіць лёгка: бальшавіцкае непрыняцце любога закона. Думаю, што і ў нас гэтая хвароба яшчэ далёка не вылечана. І гэта галоўнае, пра што нельга забывацца.

## Зварот да палітычных партый, рухаў і грамадскіх аб'яднанняў Рэспублікі Беларусь

Паважаныя спадары!

На чарговай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, якая пачнецца 18 мая 1993 года, будзе вырашацца пытанне аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму па важнейшых праблемах унутры- і знешнепалітычнага жыцця рэспублікі.

Мы добра разумеем, што такія пытанні немагчыма вырашаць без актыўнага ўдзелу грамадскай супольнасці, без канструктыўнага ўзаемадзеяння органаў дзяржаўнай улады з палітычнымі партыямі, рухамі і грамадскімі аб'яднаннямі. Асновай такога ўзаемадзеяння можа стаць агульнае ўсведамленне ўсімі палітычнымі сіламі рэспублікі адказнасці за лёс Беларусі і яе народа. З нагоды гэтага мы прапануем палітычным партыям, рухам і грамадскім аб'яднанням Рэспублікі Беларусь правесці шырокія палітычныя кансультацыі па ўзгадненню падыходаў да правядзення рэспубліканскага рэферэндуму, абмеркаванню магчымых пытанняў, якія павінны быць унесены на народнае галасаванне.

Мы запрашаем зацікаўленыя бакі да 10 мая 1993 года прадставіць свае прапановы аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Камісію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па заканадаўству і вызначыць для ўдзелу ў далейшай працы па аднаму з прадстаўнікоў сваіх кіруючых органаў.

Мы ўпэўнены, што сумесная праца па падрыхтоўцы рэферэндуму — гэта шанц, які дазволіць перавесці разбуральнае палітычнае супрацьстаянне ў стваральны палітычны дыялог у імя Бацькаўшчыны, у імя народа.

**Дзмітрый БУЛАХАЎ,**
**Уладзімір ЛЕЎЧЫК,**
**Міхаіл СЛЯМНЁЎ**
**—старшыні камісій Вярхоўнага Савета.**

*Спрадвечныя клопаты*

## Месяц май гультаёў не любіць...

**Павел СТАСЕВІЧ**

Нашы вяскоўцы яшчэ раз даказваюць, што насуперак сённяшнім праблемам жыцця наконт веснавой работы ў беларусаў усё нармальна (гл.табліцу).

Больш трывожыць тое, што вырасце з пасеянага ды пасаджанага. Дарагавізна і "разрыў сувязей" прывялі да таго, што з угнаеннямі ў многіх гаспадарках, як кажуць, не вельмі — прыйшлося "ўразаць" гэты рацыён харчавання раслін.

Што ж тычыцца непасрэдна палявых работ, то яны і без падгону "зверху" ідуць, як трэба — людзі не дурні, без лозунгаў і газетных заклікаў ды былых абкамаўскіх рэйдаў ведаюць: праспіш май — будзеш чухаць патыліцу восенню.

**Інфармацыя аб ходзе сельскагаспадарчых работ у калгасах, саўгасах і міжгасах рэспублікі па стану на 4 мая 1993 года (у працэнтах да плана)**

| | Брэсцкая | Віцебск. | Гомельск. | Гродзенск. | Мінск. | Магілёўск. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Пасеяна яравых культур, усяго | 67 | 59 | 60 | 71 | 58 | 41 |
| Пасеяна яравых збожжавых і зернебабовых культур | 94 | 79 | 91 | 96 | 85 | 65 |
| Пасеяна льну | 66 | 38 | 52 | 51 | 60 | 24 |
| Пасеяна цукровых буракоў | 36 | 50 | 75 | 46 | 17 | 40 |
| Пасеяна крыжакветных культур | 14 | 55 | 50 | 31 | 61 | 18 |
| Пасаджана бульбы | 65 | 14 | 34 | 44 | 24 | 5 |
| Пасеяна кукурузы | 9 | 18 | 2 | 12 | 9 | 2 |
| Пасеяна гародніны | 25 | 29 | 33 | 25 | 22 | 23 |
| Пасеяна кармавых караняплодаў | 22 | 65 | 52 | 38 | 29 | 35 |



*Хроніка*

## СНД:дзень за днём

6 мая ў Маскве адбудзецца нарада па дапрацоўцы пагаднення аб бежанцах і вымушаных перасяленцах, а 6—7-га ў Акадэміі кіравання — нарада кіруючых работнікаў па праблемах антыманапольнай палітыкі. Аб гэтым паведамілі карэспандэнту Белінфарма ў прэс-службе Рабочай групы СНД.

Таксама стала вядома, што 11 мая ў Ерэване збяруцца паўнамоцныя прадстаўнікі (міністры МУС) для вырашэння пытання аб парафіраванні Палажэння аб пастаянна дзеючым органе па каардынацыі барацьбы з арганізаванымі і іншымі відамі злачынстваў.

**Ларыса КЛЮЧНІКАВА, Белінфарм.**

*Візіты*

## Катрын Лалюм'ер: "Беларусь не гатова да ўступлення ў Савет Еўропы"

Па запрашэнню Старшыні Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча і беларускага ўрада ў Мінску з афіцыйным візітам упершыню знаходзілася Генеральны сакратар Савета Еўропы Катрын Лалюм'ер. Як заявіла на прэс-канферэнцыі, якая адбылася 3 мая, кіраўнік старэйшай палітычнай міжурадавай арганізацыі Захаду, мэта візіту — абмеркаванне пытанняў уступлення Беларусі ў Савет Еўропы і азнаямленне з палітычнай і эканамічнай сітуацыяй у рэспубліцы. Справа ў тым, што Беларусь, якая мае цяпер статус "спецыяльнага запрошанага", звярнулася ў СЕ з афіцыйнай просьбай аб уступленні ў гэту арганізацыю ў якасці паўнапраўнага члена.

Аднак, каб увайсці на роўных у еўрапейскую сям'ю, якая аб'ядноўвае ў сваім складзе 26 краін з дэмакратычнай шматпартыйнай формай кіравання, дзяржаве неабходна выканаць рад умоў. Тлумачыцца гэта тым, што кожны з удзельнікаў СЕ павінен дзейнічаць у інтарэсах агульнаеўрапейскага адзінства і ажыццяўляць яго асноўныя мэты: абарону правоў чалавека і ўмацаванне дэмакратычных шматпартыйных рэжымаў, выпрацоўваць меры для вырашэння агульных праблем грамадскага жыцця і фарміраваць агульнаеўрапейскае культурнае супольніцтва. Наколькі гатова Беларусь для такіх крокаў, і паспрабавала высветліць пані Лалюм'ер у ходзе свайго візіту. Таму, відаць, не выпадкова першае пытанне, якое задала госця Старшыні Вярхоўнага Савета Станіславу Шушкевічу ў час сустрэчы, прагучала так: "Чаму вы хочаце прыблізіцца да Еўропы, па традыцыях жа Беларусь бліжэй да Расіі?"

Адказваючы на гэта пытанне, кіраўнік беларускага парламента заявіў, што жаданне Беларусі быць бліжэй да Еўропы ні ў якой меры не супярэчыць добрым адносінам з Расіяй, а, наадварот, садзейнічае збліжэнню з ёй. Беларусь, падкрэсліў Станіслаў Шушкевіч, імкнецца развіваць адносіны з усімі сваімі суседзямі. У той жа час ён адзначыў, што неабходна ствараць пад эгідай ААН і пры Савеце Еўропы сістэму бяспекі, таму што немагчыма ствараць чыста лакальныя структуры. І калі ў палітычным сэнсе гэта нескладана, адзначыў Станіслаў Шушкевіч, то ў эканамічных адносінах сітуацыя больш цяжкая: рэспубліка павінна мець адпаведныя падставы, каб прэтэндаваць на раўнапраўныя партнёрскія адносіны.

У гэты ж дзень Катрын Лалюм'ер правяла перагаворы з міністрам замежных спраў Пятром Краўчанкам. У ходзе гутаркі абмяркоўваліся чатыры групы пытанняў: ажыццяўленне ў рэспубліцы палітычнай рэформы, удзел у міжнародным жыцці, ваенныя і эканамічныя пытанні.

Праграма візіту Катрын Лалюм'ер была вельмі насычанай. 3 мая адбыліся яшчэ дзве важныя сустрэчы: з прадстаўнікамі палітычных партый і рухаў, а таксама з народнымі дэпутатамі і кіраўнікамі рада міністэрстваў. У ходзе гэтых гутарак адбыўся шчыры абмен думкамі. Як лічыць Катрын Лалюм'ер, Беларусь, якая знаходзіцца цяпер у пераходным перыядзе, мае рад цяжкасцей як палітычных, так і эканамічных.

"Я прыехала сюды, каб, наколькі гэта магчыма, паспрабаваць зразумець і ўбачыць вашы праблемы. Спадзяюся і ўпэўнена, што кантакты паміж Усходам і Захадам будуць развівацца. Народ Беларусі павінен выбраць свой шлях сам. Трэба зрабіць палітычны выбар дзеля будучыні", — сказала Катрын Лалюм'ер.

Беларусь імкнецца да супрацоўніцтва з Захадам, не разрываючы адносін з Расіяй, рэспубліка прымае дэмакратычныя рэформы, мае намер ісці да рыначнай эканомікі, і, нягледзячы на пагаршэнне эканамічнай сітуацыі, рэспубліка ўсё ж за апошнія два гады рушыла наперад — такія асабістыя ўражанні Генеральнага сакратара Савета Еўропы ад цяперашняга візіту.

У той жа час яна лічыць, што ў Беларусі існуюць рэзкія рознагалоссі ўнутры парламента, няма дакладнай лініі далейшага развіцця, адсутнічае агульная ідэя прыватызацыі. Таму па раду прычын рэспубліка на сённяшні дзень не гатова да ўступлення ў СЕ. У прыватнасці, адной з умоў членства прадугледжваецца, што палітычная пазіцыя дзяржавы павінна грунтавацца на дэмакратычных асновах, плюралізме думак, захаванні правоў чалавека, свабодзе прэсы і г.д. Гэтыя нормы павінны быць замацаваны ў новай Канстытуцыі Беларусі, якая, як мы ведаем, яшчэ не прынята. Не выконваецца і другое патрабаванне Савета Еўропы да сваіх членаў — свабодныя выбары на шматпартыйнай аснове. Так што пакуль, на жаль, на шляху ў Еўропу гарыць жоўтае святло. Якім яно зменіцца — зялёным ці чырвоным, — вырашаць не ў Страсбургу, а тут, у рэспубліцы.

**Ларыса ЛАЗАР, Белінфарм.**

*Мір дому твайму*

## "Народная газета" — Ваша газета!

**Сябры!**

**Суайчыннікі!**

Багацце Вашага ўнутранага свету, Ваша дасведчанасць у пытаннях жыцця рэспублікі і замежжа ў многім будуць залежаць ад таго, **якая газета** стане для Вас настольнай з 1 ліпеня 1993 года.

Без перабольшання скажам: **"Народная газета" — Ваша газета.** Яна служыць не асобам і партыям, не класам і саслоўям, не групоўкам і кланам, а — народу.

Стаўшы за два з паловай гады адной з самых папулярных і масавых (штодзённы тыраж 619—650 тысяч экземпляраў), "Народная газета" ў далейшым будзе яшчэ больш цікавай і прываблівай. Мэта рэдакцыі — выдаваць самую дэмакратычную газету для ўсіх катэгорый чытачоў. Выходзіць яна на дзвюх мовах — беларускай і рускай.

Як і ў першым паўгоддзі, чытачы "Народнай газеты" будуць бясплатна атрымліваць спецыяльныя ўкладышы з законамі, пастановамі, указамі і іншымі афіцыйнымі дакументамі Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь. Плануюцца таксама бясплатныя дадаткі "Будзь гаспадаром!", "Рэклама" і інш.

"Народная газета" нясе мір дому твайму.

**"Народная газета" — Ваша газета!**

Набліжаецца да завяршэння падпіска на другую палову 1993 года. Не спазніцеся! Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі да 20 мая. Індэкс 63868. Цана: на месяц — 130 рублёў, на квартал — 390, на 6 месяцаў — 780 рублёў. Па кошту "Народная газета" адна з самых даступных сярод штодзённых выданняў.

**Рэдкалегія "Народнай газеты"**

*Мир дому твоему*

## "Народная газета" — Ваша газета!

**Друзья!**

**Соотечественники!**

Богатство Вашего внутреннего мира, Ваша осведомленность в вопросах жизни республики и зарубежья во многом будут зависеть от того, **какая газета** станет для Вас настольной с 1 июля 1993 года.

Без преувеличения скажем: **"Народная газета" — Ваша газета"**. Она служит не лицам и партиям, не классам и сословиям, не группировкам и кланам, а — народу.

Став за два с половиной года одной из самых популярных и массовых (ежедневный тираж 619—650 тысяч экземпляров), "Народная газета" в дальнейшем будет еще более интересной и привлекательной. Цель редакции — издавать самую демократичную газету для всех категорий читателей. Выходит она на двух языках — русском и белорусском.

Как и в первом полугодии, читатели "Народной газеты" будут бесплатно получать специальные вкладыши с законами, постановлениями, указами и другими официальными документами Верховного Совета и Совета Министров Республики Беларусь. Планируются также бесплатные приложения "Будь хозяином!", "Реклама" и др.

"Народная газета" несет мир дому твоему.

**"Народная газета" — Ваша газета!**

Близится к завершению подписка на вторую половину 1993 года. Не опоздайте! Подписаться можно в любом отделении связи до 20 мая. Индекс 63868. Цена: на месяц — 130 рублей, на квартал — 390, на 6 месяцев — 780 рублей. По стоимости "Народная газета" одна из самых доступных среди ежедневных изданий.

**Редколлегия "Народной газеты"**

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

## Навіны адным абзацам

Навінкай парадаваў рыбакоў магілёўскі завод "Зеніт". Тут упершыню ў Беларусі выпушчана доследная партыя пнеўматычных ружжаў для падводнага палявання за буйной рыбай. У гэтым годзе прыборабудаўнікі разлічваюць вырабіць дзве тысячы штук ружжаў і пачаць вывучэнне пакупніцкага попыту.

□

Своеасаблівы рэкорд устанавіў 28-гадовы непрацуючы жыхар вёскі Казляны Воранаўскага раёна Адамовіч. За паўгода ён учыніў шэсць крадзяжоў дзяржаўнай маёмасці. Прычым усе па месцы свайго пражывання — у гандлёвых кропках Забалоцкага спажывецкага таварыства. На рахунку "рэкардсмена" — два склады з таварамі і некалькі магазінаў. Дзейнічаў ён прымітыўна — узломваў дзверы звычайным ломам і браў усё, што трапляла пад руку.

□

Самыя ўдзячныя гледачы прыйдуць 5 мая ў вялікую канцэртную залу Белдзяржфілармоніі на канцэрт ансамбля "Харошкі". Дзяцей-сірот з Мінска і Мінскай вобласці, а таксама таленавітых хлопчыкаў і дзяўчынак з музычных школ запрасіў на танцавальны нон-стоп фонд сацыяльнай падтрымкі дзяцей і падлеткаў "Мы — дзецям". Дабрачынны канцэрт адбудзецца ў рамках акцыі "Нашы дзеці".

□

Вопытны злодзей можа абысці і сігналізацыю, і вартаўніка, але яму не заўсёды ўдаецца ашукаць прыродны нюх вартавога сабакі. Гэты неаспрэчны факт вырашылі ўзяць на заметку ў Іванаўскім райспажыўсаюзе. На базе нарыхтоўчага прадпрыемства тут стварылі невялікі гадавальнік сабак. Пакуль што чацверанога памочнікі ахоўваюць толькі аўтабазу райспажыўсаюза. Але вельмі хутка зоймуць пост і на аптова-гандлёвай базе, і на вытворча-харчовым заводзе.

□

Услед за газетамі, падпіска на якія для многіх стала проста не па кішэні, некаторыя вяскоўцы ў Ляхавіцкім раёне вымушаны адмаўляцца і яшчэ ад адной прывычнай крыніцы інфармацыі — радыё. Абаненты, асабліва тыя, хто жыве на невялікую пенсію, лічаць, што павлічаная нядаўна да 40 рублёў у месяц цана радыёкропкі для іх яўна разаральная. Тым больш што і гэты тарыф не канчатковы — абанементная плата павялічваецца ледзь ці не штомесячна. Прапарцыянальна гэтым павышэнням расце ў раёне і колькасць "адказнікаў" ад радыё: сёння іх ўжо каля ста чалавек.

**Белінфарм.**

*Не ўсё так дрэнна*

## Нашы кнігі — на еўрапейскім узроўні

**3 мая ў мінскім Доме кнігі адкрылася выстава "Беларуская кніга-92", якая праводзіцца па ініцыятыве Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь і знешнеэканамічнай фірмы "Ніва".**

На працягу тыдня будзе экспанавацца каля 110 кніг, выдадзеных у рэспубліцы за апошні год, сярод якіх і кнігі-пераможцы XXXIII рэспубліканскага конкурсу "Мастацтва кнігі". На 8 мая запланавана сустрэча з беларускімі паэтамі У.Карызнам і Л.Пранчаком. А 9 мая адбудзецца прысуджэнне ўзнагарод.

Адметнасць выставы ў тым, што на ёй можна ўбачыць кніжную прадукцыю не толькі дзяржаўных выдавецтваў, але і дваццаці "нетрадыцыйных", незалежных выдавецкіх арганізацый: "Сантана", "Белфакс", "Паліфакт", "Дайджэст" і іншых.

Як адзначыў міністр інфармацыі Анатоль Бутэвіч, беларускім кнігавыдаўцам ёсць што паказаць, бо нават у такі цяжкі час, калі значна абвастрыліся эканамічныя і іншыя праблемы, узровень выдання беларускіх кніг застаецца па-ранейшаму высокім.

Выступаючы на ўрачыстым адкрыцці выставы, міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётр Краўчанка сказаў, што паліграфічнае выкананне беларускіх кніг ён лічыць адным з лепшых у Еўропе.

Ці сапраўды гэта так, вы зможаце пераканацца, калі наведаеце выставу "Беларуская кніга-92".

**Алена ХАРЫТОНАВА.**

*Галоўнаму рэдактару "Народнай газеты" сп. Сярэдзічу І.П.*

*1 красавіка 1993 года ў "Народнай газеце" быў надрукаваны адкрыты ліст Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В.Ф.Кебіча "Не трэба галаслоўных абвінавачванняў". Ён быў падрыхтаваны па матывах заявы "Аб дачыненнях у войску". Заяву падпісала група народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь ад апазіцыі БНФ, у тым ліку і я, а В.Ф.Кебіч вырашыў даць адказ праз газету чамусьці толькі народнаму дэпутату З.С.Пазьняку. Магчыма, кіраўніку ўрада зручней падтрымліваць дыялог праз газету з кожным паасобку. Таму, падтрымліваючы яго ініцыятыву, прапаную працягваць кантакты народных дэпутатаў са спадаром В.Ф.Кебічам праз "Народную газету" і прашу надрукаваць мой артыкул.*

*З павагай — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Г.Г.СЯМДЗЯНАВА.*

*Дыялог народных дэпутатаў з кіраўніком урада*

# "Гульні" з бяспекай вельмі небяспечныя

19 сакавіка 1993 года ў "Народнай газеце" была надрукавана заява групы народных дэпутатаў Беларусі, членаў апазіцыі БНФ "Аб дачыненнях у войску". У заяве востра ставіліся пытанні аб нацыянальнай палітыцы асобных структур урада Беларусі, Міністэрства абароны ў галіне вайсковага будаўніцтва, выказвалася занепакоенасць імкненнем пэўных сіл скасаваць нейтралітэт Беларусі і ўцягнуць яе ў сістэму "калектыўнай бяспекі". Узнімаўся яшчэ шэраг пытанняў, звязаных з выкананнем прынятай ваеннай дактрыны, Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце, законаў і пастаноў Вярхоўнага Савета аб войску, міждзяржаўных пагадненняў.

Прачытаўшы адказ В.Ф.Кебіча, была здзіўлена, як можна паставіць усё "з ног на галаву". Згодна з Канстытуцыяй Беларусі, Вярхоўны Савет — вышэйшы орган дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь, а Саўмін — вышэйшы выканаўчы орган дзяржаўнай улады Беларусі. Такім чынам, усе законы, пастановы, якія прымаюцца Вярхоўным Саветам, павінны не ігнаравацца Саўмінам, а выконвацца. Нават тыя, якія камусьці з членаў урада не падабаюцца (як, напрыклад, ваенная дактрына Беларусі і пастанова аб яе ўвядзенні ў дзеянне).

Фактычна ж Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, замест таго каб выконваць прынятую Вярхоўным Саветам ваенную дактрыну і пастанову аб увядзенні яе ў дзеянне, дзе ў п. 3 запісана: "Даручыць Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь да 1 сакавіка 1993 года прадставіць у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прапановы па прывядзенню заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з ваеннай дактрынай Рэспублікі Беларусь; прывесці рашэнні ўрада ў адпаведнасць з ваеннай дактрынай Рэспублікі Беларусь", робіць усё магчымае, каб рашэнне Вярхоўнага Савета не выканаць. Спадар В.Ф.Кебіч, замест таго каб у вызначаны тэрмін прадставіць у Вярхоўны Савет падрыхтаваныя дакументы, робіць заяву аб калектыўнай бяспецы. Магчыма, нешта аб гэтым сказана ў ваеннай дактрыне. Чытаем: "Ваенная дактрына Рэспублікі Беларусь мае накіраванасць узброенага нейтралітэту і дапускае ў выпадку адбіцця агрэсіі супрацоўніцтва з іншымі дзяржавамі для вырашэння абарончых задач". Міжволі ўзнікае пытанне: ці не хоча нас раптам нехта "захапіць"? Чаму спадар В.Ф.Кебіч і саўмінаўскае лобі ў Вярхоўным Савеце раптам паднялі страшэнны лямант наконт "калектыўнай бяспекі"? Калі ж спадары з урада нешта ведаюць аб "падрыхтаванай агрэсіі", чаму яны не гавораць аб гэтым дэпутатам і, галоўнае, свайму народу?

Яшчэ цытата з таго ж дакумента: "Ваенная дактрына Рэспублікі Беларусь можа быць зменена і дапоўнена новымі палажэннямі толькі вышэйшым органам дзяржаўнай улады на аснове ацэнак ваенна-палітычнай і ваенна-стратэгічнай абстаноўкі ў свеце і ў Еўропе, а таксама пры фактычным дасягненні рэспублікай статуса нейтральнай, бяз'ядзернай дзяржавы". Можа, Рэспубліка Беларусь са снежня 1992 года ўжо ажыццявіла пераход да "нейтральнай, бяз'ядзернай дзяржавы"? Ці так раптоўна змянілася ваенна-палітычная і ваенна-стратэгічная абстаноўка? Што ж адбылося пасля прыняцця ваеннай дактрыны, якія змены ў "тэатры ваенных дзеянняў", акрамя выхаду камуністаў з "акопаў"? Можа, "калектыўная бяспека" патрэбна для барацьбы супраць "красно-коричневых"? Не, яна патрэбна, я лічу, менавіта ім, кіруючым прадстаўнікам КПБ—КПСС у Вярхоўным Савеце і Савеце Міністраў. Гэта ж не іх сыны гінулі ў Афганістане, не іх дзеці і сваякі зараз служаць у "гарачых кропках", не да іх прывозілі труны з розных "лакальных" войнаў, у якіх прымаў удзел былы СССР. Зараз, каб яшчэ пратрымацца ва ўладзе, ім патрэбны расійская нафта, сыравіна і яны гатовы за гэта плаціць жыццямі нашых грамадзян, іх крывёй, замест таго каб шукаць іншыя крыніцы для існавання нашай эканомікі. І спадар Кебіч, які зараз пры ўладзе, мне здаецца, добра памятае, што гэтую ўладу ён атрымаў са згоды і з рук "руководящей и направляющей" у тыя часы, калі быў членам бюро ЦК КПБ—КПСС. Настаў час плаціць, але навошта плаціць са сваёй кішэні, калі ёсць народ "самы памяркоўны", "самы талерантны", хай ён і заплаціць! Гэтага патрабуюць палітычныя правадыры КПБ—КПСС—ПКБ! Толькі спадар Кебіч забываецца (цытую яго): "Умяшанне ў гэты працэс (ваеннага будаўніцтва. — **Г.С.**) палітычных партый, грамадскіх арганізацый і рухаў, непрафесіяналаў — супрацьзаконнае". Хто-хто, а В.Ф.Кебіч ведае, што для цвёрдакаменных камуністаў не існуе непераадольных перашкод, нават калі трэба парушыць закон, як гэта было з забаронай рэферэндуму аб роспуску Вярхоўнага Савета.

Цікава, каго В.Ф.Кебіч мае на ўвазе, калі гаворыць аб непрафесіяналізме: членаў апазіцыі, якія зрабілі праз друк заяву "Аб дачыненнях у войску", альбо начальніка Упраўлення грамадскай бяспекі і абароны спадара Г.Данілава, былога партыйнага кіраўніка абласнога маштаба і ягоных намеснікаў палкоўнікаў В.У.Паўлава і Г.І.Казлова, якія ўсе разам з урадавых кабінетаў кіруюць Міністэрствам абароны і прызначаным на сесіі Вярхоўнага Савета міністрам абароны, дарэчы, генерал-палкоўнікам П.П.Казлоўскім?

Яшчэ больш радыкальная заява спадара В.Ф.Кебіча ў сувязі з "калектыўнай бяспекай" аб тым, што "мая пазіцыя падтрымана кіраўнікамі выканкамаў мясцовых Саветаў народных дэпутатаў. Я ўпэўнены, што яна падтрымліваецца абсалютнай большасцю беларускага народа..."

Нічога дзіўнага, што кіраўнікі выканкамаў падтрымліваюць урад. На Беларусі толькі малое дзіця не ведае, што ўзначальваюць выканкамы мясцовых Саветаў у абсалютнай большасці ўсё тыя ж выхаванцы КПБ—КПСС—ПКБ—ВЛКСМ—ЛКСМБ — партыйна-наменклатурная эліта былой БССР. А адказ на пытанне, ці патрэбна народу чарговая авантура ў выглядзе "калектыўнай бяспекі", ён дасць на рэферэндуме, які, спадзяюся, адбудзецца. І трэба ведаць, што "гульні" з бяспекай вельмі небяспечныя.

Дыскусію са спадаром В.Ф.Кебічам можна весці доўга, тым больш што абвінавачванняў у адрас дэпутатаў з яго боку было шмат. Карыстаючыся яго тэрміналогіяй ("не трэба галаслоўных абвінавачванняў"), хачу лепш задаць спадару Кебічу некалькі канкрэтных пытанняў. І, вядома, атрымаць на іх канкрэтныя адказы. А пытанні ў мяне наступныя:

1. Якія меры і кім прыняты па фактах раскрадання ваеннай маёмасці? (Прывядзіце канкрэтныя факты, якія ўжо сталі і яшчэ не сталі здабыткам грамадскасці.)

2. Вы пішаце: "строга пакаралі вінаватых" урад і Міністэрства абароны. Калі ласка, удакладніце, каго канкрэтна і як. І пажадана, каб гэты спіс быў поўным.

3. Саўмін і Міністэрства абароны прынялі рашэнне аб вызваленні ад займаемых пасад "шэрага асоб". Калі ласка, абнародуйце гэты спіс.

4. Канкрэтна, хто, колькі і па якіх фактах злоўжыванняў службовых асоб узбудзіў крымінальныя справы супраць іх?

5. Вярхоўны Савет патрабаваў ад Савета Міністраў да 1.05.93 г. распрацаваць праграму вяртання ваеннаслужачых — грамадзян Рэспублікі Беларусь з дзяржаў — удзельніц СНД ва Узброеныя Сілы Рэспублікі Беларусь. (Пастанова N 1901-XII ад 3.11.92 г.). Дзе гэтая праграма? Калі яна ёсць, як пачалася яе рэалізацыя?

6. Што азначае выраз "была праведзена работа па вяртанню нашых землякоў-ваеннаслужачых"? Магчыма, "работа" і "была праведзена", а які яе вынік? Ці ведаеце Вы, што шмат хто з нашых афіцэраў-землякоў у "гарачых кропках" нават не ведае, што Вярхоўны Савет Беларусі прыняў рашэнне аб вяртанні жадаючых дамоў? Ці вядома Вам, што міністры абароны з рэспублік Сярэдняй Азіі робяць усё магчымае, каб нашы землякі не ведалі аб тым, што іх чакаюць дома? Чаму Вы не прыводзіце канкрэтныя лічбы, колькі афіцэраў жадае вяртацца, колькі вярнулася і колькі яшчэ засталося ў "гарачых кропках" і чаму?

7. Вы прыводзіце лічбу, што ўжо вернута 5,5 тысячы чалавек. Цікава, а колькі з гэтых людзей маюць права на грамадзянства Беларусі? Колькі з іх вярнулася з "гарачых кропак"? Хто такія астатнія? Група дэпутатаў, у тым ліку і члены Камісіі па прывілеях, маюць жаданне азнаёміцца з асабістымі справамі гэтых людзей. Дзе і калі гэта магчыма зрабіць?

8. Наконт авіяпалка, што дыслакуецца ў г.Лідзе. Вы пішаце, што "дадзены даручэнні адпаведным структурам выканаўчай улады..." На бюракратычнай мове гэта называецца "адпіска". Для таго, каб высветліць гэтае пытанне, мы звярталіся з заявай да ўрадавых структур, і акрамя пустых слоў, нічога не атрымалі ў адказ. Удакладніце, калі ласка, якія даручэнні і якім структурам дадзены? Гэтае пытанне цікавіць не толькі дэпутатаў, але і вайскоўцаў з Ліды. Прывяду цытату з іх ліста ад 4 красавіка 1993 г. "Ознакомившись с ответом Председателя Совета Министров Беларуси Кебича В.Ф. в "Народной газете" от 1 апреля 1993 года "Не трэба галаслоўных абвінавачванняў", мы возмущены недостоверностью приводимых фактов в части, касающейся нашего гарнизона. Возможно, В.Ф.Кебича недостаточно проинформировали о сложившейся ситуации в нашем гарнизоне, но то, что это не "галаслоўныя абвінавачванні" (со стороны оппозиции. — **Г.С.**) в нарушении закона о гражданстве и прав человека, за это мы ручаемся головой. Разве это грубый вымысел, што наши воинские части с чьей-то "барской руки" были переданы под юрисдикцию России и нам пытались внушить М. Гриб, Л.Привалов и др., что мы потеряли гражданство Республики Беларусь...

Не по своей воле служим мы сейчас в российской армии, и деление на "наших" и "не наших" происходило без всякого стеснения и учета нашего мнения, хотя каждый из нас имеет собственное мнение, но оно было грубо нарушено действиями военных чиновников..." Пад лістом стаяць подпісы 19 вайскоўцаў. Гэта тыя людзі, якія двойчы ўжо стаялі ў пікеце каля Вярхоўнага Савета і Дома ўрада. Каментарыі тут не патрэбны.

На заканчэнне хочацца звярнуць Вашу ўвагу на розніцу паміж зваротам да Вас народных дэпутатаў і прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый, партый і рухаў.

У народных дэпутатаў ёсць магчымасць выкарыстаць Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях, у прыватнасці артыкул $167_6$, дзе гаворыцца аб адказнасці службовых асоб за адказ на дэпутацкі запыт. Прывяду цытату: "Наўмыснае прадстаўленне няпоўнай або недакладнай інфармацыі па запыту цягне накладанне штрафу ў памеры ад адной да трох мінімальных заработных плат". Штраф гэты можа накласці суд.

Лічу, што дэпутаты выкарыстаюць сваё права і звернуцца ў суд. Канешне, пры Вашых даходах, нават тры мінімальныя зарплаты — мізэр, але, як гаворыцца, галоўнае, каб "працэс пайшоў".

**Галіна СЯМДЗЯНАВА, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь.**

*Творчасць — у масы!*





## Школа ўхілілася ў мастацтва. Жыццё паказала: ухіл правільны

Сваім нараджэннем Маладзечанская школа мастацтваў абавязана не раптоўнаму з'яўленню ўдалай ідэі ў чыёйсьці разумнай галаве. Усё было прасцей. Педагогі бачылі, адчувалі, што стандартная праграма агульнаадукацыйнай школы — гэта вельмі скупая і бедная на вітаміны творчасці ежа для розуму дзіцяці, якое хутка расце, спасцігае свет і навукі, якога нават складаным рэчам можна навучыць спакваля, падчас гульні.

Будавалася, рыхтавалася да адкрыцця новая дзесяцігодка. І эстэтычнае выхаванне ў новай школе вырашылі пачаць з адкрыцця музычна-харавога аддзялення. Перапланавалі праект навабудоўлі, падабралі кадры, узброіліся вучэбнымі планамі — поспех справы напалову быў гарантаваны добрым пачаткам.

Пра гэта ў час нашай сустрэчы мне расказвае дырэктар школы Людміла Аркадзьеўна Васілевіч. Што было далей? Праз год адкрылі харэаграфічнае аддзяленне, пазней — тэатральнае, потым — мастацкае і агульнаэстэтычнае. Тыпавыя планы работы, дасланыя Міністэрствам адукацыі, прыйшлося адкласці ўбок, каб даць месца ўласным распрацоўкам.

— У нашых вучэбных планах няма занадта вузкай спецыялізацыі, — тлумачыць Людміла Аркадзьеўна. — Таму вучань, напрыклад, музычна-харавога аддзялення займаецца і жывапісам, тэатральнай справай, хоць і крыху менш. На кожным аддзяленні, такім чынам, глыбока ўзаемаўвязаны ўсе віды мастацтва. У малодшых класах дзеці праз лагічныя гульні пачынаюць асвойваць камп'ютэр, знаёміцца з паняццем алгарытму, будовай "разумнай машыны". І вынікі такой сістэмы навучання вельмі радуюць. Да таго ж і замежныя мовы нашыя дзеці пачынаюць вывучаць з першага класа.

Усё новае мы ўводзім у школьнае жыццё спакваля, каб не ператвараць дзяцей у нейкіх паддоследных істот. Калі нам кажуць, што ўвесь час мы аддаём культуры і мастацтву, то гэта не зусім так. Выпускнікі нашых аддзяленняў — шасцікласнікі. Таму вучань, не захацеўшы звязваць жыццё з нейкім відам мастацтва, у старэйшых класах займаецца тымі прадметамі, якія палічыць неабходнымі.

Гэта незвычайная школа расце, ужо з'явіліся свае творчыя калектывы: акадэмічны хор пад кіраўніцтвам Леанарды Францаўны Трацякоўай і духавы аркестр на чале са Сцяпанам Сцяпанавічам Міхальчуком. Творчасць ва ўсім і ўсюды. І расцвітаюць таленты, узбагачаюцца душы.

**Сяргей ГРЫЦ, фота аўтара.**

**□ Член Саюза мастакоў Беларусі Мікалай Віктаравіч Аўчыннікаў — безумоўны аўтарытэт на занятках жывапісу.**

**□ Спасціжэнне прыгажосці танца.**

**□ Заняткі ў класе цымбал вядзе Наталля Іванаўна Ціханчук.**

*Праздник*

## Растите, юные!

**Своеобразным прологом республиканского студенческого фестиваля, который начнется 5 мая, стало вчерашнее открытие весенней "АРТ-сессии" в Витебске.**

"Гвоздь" традиционного праздника талантов — выставки произведений молодых авторов, получающих художественное и дизайнерское образование в вузах и средних специальных учебных заведениях города, их старших коллег — дипломников прошлого года.

Победителям творческих конкурсов приготовлено 15 денежных премий. Судьбу наград решит независимое жюри, в составе которого народный художник Беларуси, обладатель звания "Человек XX столетия" Гавриил Ващенко. Лауреатам гарантировано право показать свои работы на I Международном Шагаловском пленере. Цель "АРТ-сессии" — поддержать юные дарования, дать им путевку в большое искусство.

**Сергей БУТКЕВИЧ.**

*Взгляд непостороннего*

## "Льготы" от бюрократии

Бывает, конечно, что настроение зависит и от погоды, но чаще всего зависит оно от человека. Прочитал, например, ветеран в газете про скидку за оплату жилплощади и за телефон. Идет с хорошим настроением в жилищное управление:

— Так, мол, и так, сделайте скидку.

А из окошечка бухгалтерии:

— Вы что, объявлений не читаете? Сегодня мы занимаемся перерасчетом. У меня всего две руки. За скидкой приходите, когда пригласим.

Доступ к окошечку ограничен — три раза в неделю, иногда 4 часа, а иногда и всего-то 2 часа. А народу-то в участке 15 тысяч. Всегда очереди, да не простые, а очень даже внушительные. Закрывается окошечко всегда точно минута в минуту. Простоит человек два часа, подпирая стену, приблизится к окошечку, а оно перед самым носом закроется. Пенсионер только повздыхает, а остальные молча расходятся. Пытались сначала, как в "сахарных" очередях, записывать номера на ладони, да не прижилось это. Бывает, что немощные и в обморок падают, и „скорая" приезжала. Жаль, что невозможно учесть, сколько времени и человеческой энергии пропадает зазря.

Мне, 82-летнему, тем более не по зубам железобетонность закоренелых бюрократов.

Дважды терпеливо выстаивал свое время в очереди и я, но окошка не достиг и отправился в горкомхоз. К моему большому удивлению, в комнате N 21 встретил полное понимание и участливость. Бухгалтер просмотрела все мои документы и в одну минуту обозначила карандашом, где следует, льготу. Окрыленный надеждой, я на следующий день пораньше занял очередь в бухгалтерию своего домоуправления. Был тринадцатым и через час подал документы. Свои и жены: паспорта, пенсионные книжки, домовую книжку и телефонную. Пожилая экономистка в это время долго и внушительно читала нотацию пенсионеру, который пытался понять свою провинность и только пожимал плечами. Моя воспитательница, которая помоложе, заявила о себе требовательно:

— Почему не принесли трудовые книжки?

— А зачем они нужны при наличии паспорта, пенсионной и домовой книжек? Там все ясно — и пенсия, и возраст. Вот вам еще удостоверение мое и жены о льготах, медали "За трудовую доблесть". Вот удостоверение "Ветеран труда"...

Даже не взглянув на них, она заявила с интонацией, не терпящей возражения:

— Принесите трудовые книжки.

Я только плечами пожал и отправился за книжками. Принес.

— Внимательно изучив, как следователь, обе книжки, дама испытующе поглядела на меня:

— А почему нет записи о последнем месте работы?

— У вас же в руках справка о моем писательском пятидесятилетнем стаже. И работу я еще продолжаю, заметил я. А вернувшись домой, не мог не написать о бюрократах, чиновниках-формалистах, расхитителях нашего времени и здоровья.

**Иосиф ВАСИЛЕВСКИЙ, писатель, ветеран труда, пенсионер.**

г.Минск.

## Свабодны прафсаюз лічыць, што рабочых месц не прадбачыцца

**"Ваенны саюз з дзяржавамі Садружнасці не забяспечыць захавання рабочых месц у Беларусі", — заявіў карэспандэнту Белінфарма старшыня Свабоднага прафсаюза Беларусі (СПБ) Генадзь Быкаў.**

На магчымым усебеларускім рэферэндуме СПБ хутчэй за ўсё падтрымае пазіцыю Станіслава Шушкевіча аб недалучэнні Беларусі да дагавора аб калектыўнай бяспецы. Канчаткова пазіцыя СПБ будзе вызначана на чарговым пасяджэнні савета.

Цяпер СПБ актывізаваў сваю дзейнасць па ўстанаўленню кантактаў з незалежнымі прафсаюзамі гарнякоў Расіі, сацпрофам, а таксама з Народна-працоўным саюзам (НПС), прадстаўніцтва якога размешчана ў Маскве.

**Ларыса КЛЮЧНІКАВА.**

*Рэпарцёр даведаўся*

## Міліцыянерам ужо далі. Прэміі. Злачынцам яшчэ дадуць. Тэрміны

**Буйнымі грашовымі прэміямі і Ганаровай граматай па распараджэнню міністра ўнутраных спраў Беларусі У.Ягорава ўзнагароджаны супрацоўнікі міліцыі, якія ўдзельнічалі ў абясшкоджанні злачыннай групы.**

За тры гады ёю было здзейснена больш за 60 злачынстваў у Брэсцкай, Мінскай, Віцебскай абласцях. Затрымана каля 20 чалавек, у тым ліку С.Коўзан, які ў мінулым годзе ўцёк са следчага ізалятара.

**БелаПАН.**

## Мы будзем піць і смяяцца, як дзеці?

**І хоць цяпер афіцыйна забаронены продаж спіртнога ў камерцыйных ларках, што называюцца ў народзе "камкамі", этылавы (вінны) спірт працягвае паступаць у Беларусь. Рэдакцыя сацыяльна-экалагічнай газеты "Набат", якая першай узняла трывогу наконт спойвання беларускай нацыі нізкаякасным і ядавітым спіртам, накшталт "Рояла", папрасіла праз Белінфарм абнародаваць афіцыйны адказ Дзяржаўнага мытнага камітэта Рэспублікі Беларусь.**

У ім, у прыватнасці, гаворыцца, што ў мінулым годзе ў рэспубліку было ўвезена каля 5400 тон спірту. У гэтым, толькі за першы квартал, — 1100 тон. А для таго, каб увезці спірт або спіртныя напіткі, аказваецца, нават не патрабуецца спецыяльнага дазволу, дастаткова выканаць агульныя патрабаванні правіл мытнага афармлення. Мытны камітэт, як і газета, занепакоены "навадненнем" рэспублікі спіртамі замежнай вытворчасці і ўнёс на разгляд урада прапанову аб істотным павелічэнні ставак падатку на іх імпарт.

**Белінфарм.**

